НА мяжы

# АБ СТАРШЫНЯХ (3)

І ўсё ж так хочацца спытаць, чаму практычна ўсе папярэднія старшыні Беларускага таварыства, перастаўшы выконваць функцыі, практычна парывалі ўсе сувязі з нашай арганізацыяй? Чаму ніводзін з былых старшыняў не павіншаваў мяне з даручэннем мне той функцыі, якую выконвалі яны ў мінулым? Мушу прызнацца, што дакладна не ведаю, магу толькі дадумвацца. А вядома, што ўсякае дадумванне можа быць фальшывае. Праўдападобна прынамсі некаторыя з іх пераканаsuccessfully, што ніхто іншы, а якраз яны павінны ў далейшым быць старшынямі. Хочацца мне тут прывесці даволі цікавую гісторыю. Пасля змяшчэння з функцыі сакратара Мікіты Хрушчова, ён быццам бы цэлымі гадзінамі сядзеў нерухома ў крэсле і час ад часу на яго вачах з'яўляліся слёзы. Калі дырэктар школы, у якую хадзіў унук Хрушчова, спытаў яго: „Что делает Никита Сергеевич?" Унук адказаў: „Дедушка плачет".

Ведаю шматлікіх высокапастаўленых дзеячоў, якія страціўшы з такіх ці іншых прычын сваю работу, не маглі знайсці месца, займаліся плёткамі, інтрыгамі, ачарняннем, скіраваным супраць тых, хто заняў іх месца. Чаму так яно дзеецца? Мабыць таму, што некаторыя з дзеячоў не ўмеюць нічога, апрача кіравання арганізацыямі, установамі, гмінамі, раёнамі, ваяводствамі, дзяржавай. І калі жыццё пазбавіць гэтага кіравання, дык яны адчуваюць сябе так, як ездакі, якія на поўным галопе выскачылі з сядла.

Здаецца мне, што ніводзін з нашых былых старшыняў ні інтрыгамі, ні плёткамі, ні ачарняннем не займаецца. Проста, не займаецца нічым, што іх звязвала б з Таварыствам.

Калі гаварыць аб сабе, дык перастаўшы быць старшынёю, не буду сядзець у крэсле і плакаць. Не буду таксама, ідучы тут за добрым прыкладам маіх папярэднікаў, інтрыгаваць і пляткаваць супроць новых старшыняў. Не ідучы ў след маіх папярэднікаў, буду заўсёды, у меру сваіх магчымасцей, дзейнічаць у нашым Таварыстве.

А ўвогуле, дык хачу сказаць, што хлеб усіх старшыняў, нават і тых, што працавалі за грошы, быў хлебам горкім. Ніводзін з іх не выйшаў сухім у сэнсе больш ці менш вострай крытыкі з боку членаў Таварыства. Часта з боку тых, хто працаваў мала, або не працаваў увогуле. Аднак было нямала крытыкі прынцыповай, якая ішла ад тых, хто працаваў многа і творча, не атрымоўваючы за гэта грошай.

І я ў гэтым аспекце не хацеў бы быць выключэннем. Няхай кожны, хто хоча, выказвае свае добразычлівыя або непрыхільныя меркаванні як сёння так і заўтра. А калі б мне яшчэ прыйшлося кандыдаваць на якуюнебудзь вакансію ў Таварыстве, дык толькі ў тым выпадку, калі выбары будуць праведзены тайныя і калі галасавыя прапорцыі будуць адназначна сведчыць аб падтрымцы большасці для маёй асобы.

(Працяг на стар. 11)

„ЗОРКА" Ў МІНСКУ

# СУСТРЭЧЫ Ў КРАІНЕ АЗЁР

Другі дзень паездкі па Маладзечаншчыне групы рэдактараў дзіцячых часопісаў — „Вясёлкі", „Барвінка", „Бакчэчэкея" і нашай „Зоркі" — вёў вакол возера Нарач, беларускага перла азёр, які завуць беларускім морам.

Нашым вачам прадставілася возера бязмежнай лёдавай гладдзю. Хоць былі апошнія дні сакавіка, возера яшчэ спала глыбокім зімовым сном. Супрацьлеглага берага відаць не было, ён гінуў за даляглядам у белай імгле. Белізна ледзянога покрыва была ператкана чорнымі кропкамі-рабаціннем, і мы не адразу здагадаліся, што тыя пункцікі на лёдзе — гэта нарачанскія рыбакі, аматары выцягнуць рыбку з-пад лёду. І ловяць яны, як мне пазней расказвалі, зусім не мала — не сорамна вяртацца з рыбалкі, хопіць і сабе, і суседзям.

Нарач — вельмі чыстае возера. Яго дзівосная празрыстасць вады, рыбнае багацце, здаровае паветра сасновага лесу вакол зрабілі гэты раён любімым месцам адпачынку беларусаў. Сярод надбярэжных бароў, бярэзнікаў і ясеннікаў доўгім ланцугом вакол Нарачы размясціліся вялікія і прыгожыя дамы адпачынку, санаторыі, а таксама слаўны ў Беларусі піянерскі лагер „Зубраня", які завуць беларускім „Артэкам".

Першая наша сустрэча з чытачамі мела адбыцца іменна ў „Зубраняці". Лагер прымае піянераў круглы год. Зімой адпачывае тут каля 500 дзяцей, а летам — 700. Трапіць у гэты лагер — вялікі гонар для кожнага дзіцяці, бо прыязджаюць сюды піянеры ва ўзнагароду за выдатную вучобу, актыўную працу ў піянерскай арганізацыі, найлепшыя ў сваім асяроддзі спевакі, мастакі, карэспандэнты насценгазет. Кожная лагерная змена набіраецца па якому-небудзь профілю (піянерскія важакі, мастакі, музыканты). Усё гэта дзеля таго, каб дапамагчы дзецям дасканаліць сваё ўменне і развіваць здольнасці. На працягу навучальнага года тут адпачываюць дзеці галоўным чынам з Беларусі, бо тут яны вучацца ў школе па агульнабеларускай праграме. А летам прыязджаюць дзеці з усяго Савецкага Саюза і нават з іншых краін. Бываюць тут і польскія гарцэры.

Сустрэлі нас у лагеры вельмі сардэчна. Паказалі, як жывуць дзеці, чым займаюцца і як адпачываюць. Умовы тут для адпачынку і працы вельмі добрыя, а ўжо ў пабудове знаходзіцца новая школа для 600 дзяцей з вялікім плавальным басейнам, каб можна было і зімой рэгулярна плаваць. Мы наведалі лагерны музей гісторыі нарачанскай зямлі, прайшліся сцежкамі ўздоўж берага возера і вельмі шкадавалі, што не ўдалося пабачыць возера ў яго поўнай летняй красе. У вялікай лагернай сталоўцы нас частавалі стравамі беларускай кухні — былі і беларускія клёцкі з мясам, і бульбяныя дранікі, і рэпа са смятанай. Гэтак жа смачна кормяць тут і дзяцей, прычым 5 разоў у дзень.



Размовы з артыстамі лялечнага тэатра ў дзіцячай бібліятэцы ў Мядзелі.

У лагерным клубе нас павіталі піянеры ў святочнай форме (белыя блузкі і чырвоныя гальштукі), чалавек з пяцьсот. Сустрэлі апладысментамі і запрасілі на сцэну. Яны хацелі ўсё ведаць пра нас, пра нашу працу і нашыя часопісы. Аказваецца, на гэтай лагернай змене сабраліся юныя карэспандэнты. Яны імкнуліся даведацца, як пісаць добрыя матэрыялы ў газету, што тут найважнейшае, ды наогул, як гэта робіцца. А потым пісьменнікі Уладзімір Ліпскі, Васіль Маруга, Уладзімір Камейша і Тактасун Самудзінаў чыталі дзецям свае творы, пераважна нешта вясёлае, жартоўнае. Закончылася сустрэча вельмі сардэчна, і тут зараз жа высвятлілася, што пра нас дачуліся дзеці з недалёкай адсюль вясковай школы ў мясцовасці Купа. Прадстаўнікі школы прыехалі, каб запрасіць нас да іх у гасціну. У нашых планах сустрэч гэтай школы не было, але і адмовіць дзецям мы не маглі. Яшчэ і яшчэ раз перагледзеўшы час да наступнай планаванай сустрэчы, мы паехалі ў купскую школу. Прыемна было размаўляць з мясцовымі дзецьмі, вельмі цікаўнымі і жывымі. Яны ўсё хацелі ведаць, а потым прасілі падпісваць ім на памяць кніжкі і паштоўкі. „Зорцы" дзеці падарылі прыгожую паштоўку і абяцалі пісаць да нас пісьмы. (Дарэчы „Зорка" ўжо атрымала шэраг пісем з Маладзечаншчыны).

Наступная наша сустрэча адбылася ў раённым цэнтры Мядзель, які раскінуўся ў далінцы паміж азёрамі Мястраз і Баторын. Мядзельская зямля славіцца ў Беларусі як цэнтр курортнай зоны ў краіне блакітных азёр.

З дзецьмі сустракаліся мы ў вялікім раённым доме культуры. Ахвотных пабыць на сустрэчы было столькі, што сядзелі яны па двое на адным крэсле. А мы, іх госці, расказвалі аб сваіх часопісах, зноў чыталі свае творы, а потым і дзеці дэкламавалі вершы беларускіх пісьменнікаў, нават і тых, што былі на гэтай сустрэчы. Потым нас запрасілі ў глядзельную залу, а дзеці выйшлі на сцэну, каб паказаць нам падрыхтаваную пастаноўку п'есы мясцовага аўтара, прысвечаную барацьбе жыхароў Мядзельшчыны з нямецкімі захопнікамі. Пасля гэтай дакументальнай п'есы выступалі перад гледачамі сапраўдныя героі паказаных на сцэне падзей.

Гаспадары запрасілі нас паглядзець свой новы, яшчэ ў пабудове Музей народнай славы, а таксама новы будынак раённай бібліятэкі. Бібліятэка, як на васьмітысячны Мядзель, вельмі шыкоўная. Адзін паверх займае бібліятэка для дарослых з залай сустрэч і праекцыі кінафільмаў, а другі паверх — гэта дзіцячая бібліятэка з залай сустрэч з пісьменнікамі, вядомымі людзьмі, а параўнальна працуе тут дзіцячы лялечны тэатрык, які ставіць вядомыя казкі.

Наведаўшы яшчэ багатую мядзельскую кнігарню, мы рушылі ў Мінск. Цяпер на нашым шляху ляжала Вязынка, радзіма Янкі Купалы. Хоць набліжаўся вечар, мы павярнулі з шашы і ў промнях заходзячага сонца пад'ехалі да маляўнічага месца. Праз вузенькую рэчку, амаль гінучую пад лёдам, быў перакінуты каромыслам зграбны масцік, а за ім, на ўзгорачку, стаяла звычайная вясковая хата, у якой больш за сто гадоў таму назад нарадзіўся вялікі паэт. Зайсці ў хату-музей нам не давялося — у познія гадзіны музей быў зачынены. З ахапкам свежых кветак — падарункам дзяцей на ўсіх сустрэчах, мы падышлі да мармуровага помніка паэту і высока, на цокале, паклалі каляровы букет. Ці то апошні сонечны прамень слізгануў па знаёмым абліччы, ці то нам здалося, але Янка Купала пасвятлеў на твары, як бы павесялеў. Мы ціхенька, каб не палохаць надыходзячага такога ўрачыстага вечара, заспявалі „Купалінку", пасталі трошкі ў задуме і рушылі да машыны.

Яніна Чэрнякевіч

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ШТО Я ДУМАЮ ПРА З'ЕЗД

У днях 28-29 сакавіка адбыўся I з'езд беларускіх студэнтаў. З'езд стаўся найвышэйшым форумам у нашым студэнцкім руху, быў ацэнкай дасягненняў і няўдач, накрэсліў новыя кірункі яго развіцця. Вынікам гарачых двухдзённых дыскусій былі канкрэтныя пастановы. Іх ажыццяўленне — гэта абавязак кожнага ўдзельніка З'езда. Да выканання пастаноў, дарэчы, усе забавязаліся. Прапаную ўвазе чытачоў выказванні некаторых з нашых сяброў, удзельнікаў З'езда, запісаныя ўжо на халодны розум, тыдзень пасля яго заканчэння.

**Маргарыта Мушынская,** VI курс Медыцынскай акадэміі ў Беластоку: — Добра, што было так многа тэзісаў і ўсе яны былі падрыхтаваны, як трэба, і даволі ясна прадстаўлены. Гэта ў вялікай ступені вызначала дыскусію. Крыху шкада, што мала было студэнтаў з іншых, апрача Варшавы і Беластока, гарадоў. Гэта крыху абмежавала форум З'езда. Хаця, праўда, былі прадстаўнікі з Гданьска, Ольштына, Кракава, Лодзі і Любліна. Мо там была не зусім добрая інфармацыя, калі прыехала з гэтых гарадоў толькі некалькі асоб. Гэта, бадай, адзіны недахоп. Усё іншае — першакласна. Мо цяпер удасца мацней зварухнуць асяроддзе, не толькі забаўна-культурнымі ці адпачынкавымі мерапрыемствамі, але таксама чымсьці больш сур'ёзным. Штосьці накшталт літаратурных, гістарычных, ды наогул навуковых вечарынак. Асабліва тут у нас, у Беластоку. Пакуль што, галоўная праблема — памяшканне. Карацей кажучы: мо ў будынку ГП можна будзе збірацца? Думаю, што рэактываваная маладзёжная секцыя штосьці тут зрушыць. Добра, што на З'ездзе гаварылася пра кантакт з сябрамі з БССР, ці дакладней: пра недахоп кантактаў. Сапраўды, варта было б наладзіць некалькі экскурсій у Савецкую Беларусь. Гэта было б карысна і для нас і для нашых аднагодкаў з БССР. Абавязкова трэба як найхутчэй афіцыйна цераз ЗПС (Згуртаванне польскіх студэнтаў) увайсці ў кантакт з Камсамолам Беларусі, або нават непасрэдна з групамі „Паходня“ і „Спадчына“. Таксама вельмі добра, што разглядалася ў нас справа змен назваў мясцовасцей на Беласточчыне. Або ж не варта вярнуць гістарычныя назвы ўсім тым мясцовасцям, дзе былі яны зусім недарэчліва зменены? Таксама лічу карыснымі двухмоўныя надпісы на Беласточчыне, побач надпісу па-польску — такі самы надпіс па-беларуску. Гэта было б добрым прыкладам талерантнасці польскага грамадства. І зусім рэальным здаецца мне здзяйсненне пастаноў З'езда, яны ў нічым не перабольшаны.



Кірунак жа даваў старшыня З'езда — Юрка Ляшчынскі.

**Яўген Сноп,** II курс Беластоцкай палітэхнікі: — Вельмі прыемна ўразіла мяне сама арганізацыя мерапрыемства. Усё было, як след, загадзя падрыхтавана. Ну і дыскусія — нікім не прымушаная, у меру магчымасці свабодная, поўная шчырасці ў выказваннях. Так заўсёды павінна быць. Канчатковыя пастановы лічу крыху празмернымі. Ці зможам? Мо найперш пачаць ад чагосьці меней складанага, дзейнічаць „малымі крокамі“? Цешаць вельмі сур'ёзныя адносіны пераважаючай большасці ўдзельнікаў, бо не толькі рэйдамі, атрасінамі ці балямі жыве асяроддзе. Гэта павінна ісці на акрасу. Перш за ўсё важна пачуццё нацыянальнай свядомасці і адказнасці. Таксама лічу не зусім дастатковаю інфармацыю перад З'ездам. Многія не ведалі дакладна яго характару: што гэта такое мае быць... Аднак тыя, што з'явіліся ў Бельску, хіба ж пераканаліся, як можна, як трэба і як варта нам арганізавацца.



У кулуарах З'езда кіпелі гарачыя, бадзёрыя спрэчкі.

**Альжбета Ваўранюк,** II курс Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку: — На мой погляд зашмат эмоцый, асабліва калі ідзе пра першую пастанову, гэта значыць, пра незалежнае Беларускае аб'яднанне студэнтаў. У нашых умовах яе здзяйсненне амаль немагчымае. Мы як студэнты-беларусы не многа тут можам. Але спрабаваць варта. Вядома, як выглядае супрацоўніцтва з ЗПС. Амаль на кожным кроку сустракаем як Рада культуры перш за ўсё перашкоды. Праўда, былі гады добрага і карыснага — зразумела для нас — супрацоўніцтва. Сёння бачым, што яны беспаваротна мінулі. Бо калі мы былі ім патрэбны, тады нам: калі ласка, дзейнічайце. А цяпер: „Сустрэч“ — няма, з іншымі выданнямі таксама нас абмінулі і г.д. Праз іхнія заблытаныя структуры нам, беларусам, немагчыма прабіцца. Ну і яшчэ ёсць сярод нас людзі розных поглядаў, светабачання. Для многіх ЗПС супярэчыць статутова ды ідэйна. А новае, незалежнае, было б тым, чаго ўсе чакаюць. Тут завяршылася мэтазгоднасць усіх нас, беларускіх студэнтаў. І яшчэ хачу выказацца адносна пункту гледжання ўлад Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і Праваслаўнага брацтва. Адкуль узялося ў іх такое пагардлівае стаўленне да беларускай мовы, а што за гэтым ідзе, таксама народа? Самапагарда? Сваё сталася чужым, а чужое сваім — ці гэта не парадокс? Цяжка сказаць, ці гэта такая блізарукасць, ці такая моцная „семашкавая“ спадчына імі кіруе?

**Хрысціна Сульжык і Вяслава Сыч** з III курса Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку: — Перш-наперш хочацца выказаць падзяку арганізатарам за такі спраўна падрыхтаваны і сарганізаваны З'езд. Пашана і паклон у іх бок. Не згаджаемся з поглядамі некаторых, што быццам бы інфармацыя была недастатковай. Яна была намнога раней ужо зроблена, былі надрукаваны тэзісы, перадз'ездаўскія размажанні, былі аб'явы ў прэсе, радыёвяшчанні, лістоўках. **Толькі той, хто ўпарта не хацеў ведаць пра З'езд, можа наракаць на інфармацыю. Нас зацікавіла праблема кантактаў са школай і працуючай моладдзю. Мо асабліва таму, што мы не выпускнікі беларускіх ліцэяў. І сапраўды, ідучы пасля сярэдняй школы далей вучыцца, цяжка сысціся са сваімі. Многія гінуць у гэтым „моры ананімнасці“. Тут бачым асаблівае заданне студэнтам. Трэба паглыбляць кантакт са школьнікамі, між іншым і таму, каб было каму нас заступіць.**

**Багдан Сіманенка,** III курс Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку: — Я як памочнік арганізатараў глядзеў на ўсё мерапрыемства з другога боку. Глядзеў на людзей і падчас З'езда і чуў выказванні многіх яшчэ перад і ўжо пасля яго. Падыход студэнтаў быў розны. Шмат з іх вельмі сур'ёзна аднеслася да справы, але многія падвялі. Проста сваё асабістае паставілі вышэй грамадскага, беларускага. Гэтак нельга. Але тыя, хто ўжо з'явіўся на З'езд, прыбылі перад усім з прычыны, а нават пачуцця абавязку перад родным, а не па загаду, ці дзеля нейкіх забавовых мэтаў. Хаця нават сярод удзельнікаў здараліся людзі, якія проста не разумелі З'езда, яго мэтаў. Іх было не больш, як пальцаў на адной руцэ. Абагульняючы, магу сказаць, што ўсё-такі ёсць шмат моладзі, якой яшчэ баліць сэрца за нацыянальную справу. І мо тое, што сказаў М. Гайдук на З'ездзе: „Калі вас тут столькі, то мы з поўнай адказнасцю можам быць спакойны, што беларуская справа не згіне“. Гэта цешыць. Хацеў бы я таксама выказаць сваю падзяку дырэктару БДК Сяргею Лукашуку за давер да нас і дапамогу ў карыстанні з залаў і абсталявання. Па-мойму, З'езд быў патрэбны перад усім нам, студэнтам, але таксама іншым, нават і тым „што адракліся свайго і да чужога прыліплі“. Не самой поўнай міскай жыве чалавек...

Запісаў **Юрка Ляшчынскі**

Фота Ю. Хаманюка

### СХОД У БЕЛАСТОКУ

24 сакавіка ў Беластоку адбыўся справаздачна-выбарны сход **Рады** культуры студэнтаў беларускай і літоўскай нацыянальнасцей. Рада, як вядома, існуе з 1983 г., аднак на працягу апошніх двух гадоў практычная яе дзейнасць надта звузілася. Вінаватыя тут перад усім папярэднія яе праўленні, а карацей — некаторыя асобы, якіх дзейнасць часта была шкодная і раскольніцкая. Добра, што ў адпаведны час здаровы элемент зразумеў сваё становішча. На сходзе была крытычна ацэнена роля папярэдніх кіраўнікоў у дзейнасці, а дакладней — бяздзейнасці Рады. У новае праўленне выбраны людзі новыя, нескампраметаваныя, ад якіх можна спадзявацца належнай працы. Старшынёю выбраны **Міраслаў Пякарскі** — студэнт Беластоцкай палітэхнікі. У склад праўлення ўвайшлі: **Альжбета-Галена Ваўранюк, Барбара Гайко, Данута Мароз і Андрэй Буслоўскі.** Жадаем поспехаў і настойлівасці ў працы новаму кіраўніцтву Рады.

**Прысутны**

ПРЫСУТНАСЦЬ
студэнцкая старонка




## КРЫЖЫ З ПАЎМЕСЯЦАМІ

У артыкуле пра помнік на могілках у Кназазах у апошняй „Ніве“ за мінулы год Віктар Рудчык задумваецца над тым, чаму крыж на гэтым помніку мае дзіўны нам выгляд — яго ніжняя частка аздоблена паўмесяцам з рагамі ўгору. Калі я пісаў адгалоску на Рудчыкавы артыкул, змешчаную ў „Ніве“ ад 15 лютага, таксама нічога не ведаў наконт таго паўмесяца. Але, неяк праз тыдзень пасля, чытаў я „Церковные ведомости с прибавлениями“, датаваныя 1898 годам. І ўсяго я даведаўся (стар. 854-55).

Выявілася, што ў даўніну крыжы з такімі паўмесяцамі не былі рэдкасцю. Тое, што мы цяпер бачым, як паўмесяц, тады абазначала яно якар менавіта. Якарныя крыжы пашыраліся ў нас ад Візантыі, ад Канстанцінопаля. Сімволіка якараў, іх значэнне бярэцца яшчэ з языческіх часоў, дахрысціянскіх. Якар быў знакам бяспечнай прыстані, потым квітнеючай дзяржавы (невыпадкова грэцкія імператары Візантыі чаканілі манеты з якарам). У хрысціян знак якара набыў ужо іншага значэння. Хрыстовыя вызнаўцы бачылі ў якары сімвал надзеі, моцнае апоры. Святыя айцы часта параўноўвалі якар з мацатою веры. Вера — гэта якар, які трымае людзей пры Богу. Тады нічога дзіўнага, што з часам якар з'явіўся і на крыжах.

Цікава, колькі такіх крыжоў захавалася ў Беластоцкім краі? Магчыма, варта было б правесці перапіс іх?

**Пётр Байко**

## КРЫТЫКУ З СЯБЕ ПАЧЫНАЦЬ

Алесь Барскі ў сваёй рубрыцы „На мяжы“ піша пра мяне: ведаю я Хведара Хлябіча з Рыбакоў. „Каб я, аднак, ведаў Хлябіча толькі з яго палемічных публікацыяў, то мог бы падумаць, што гэта чалавек з характарам драпежніка, чалавеканенавісніка. Аднак вернемся да яго злосці і выдумкі...“

Але куды вернемся, да якой злосці і ў якім нумары „Нівы“? — пытаюся я ў Барскага. Я пераглядзеў з дзвесце „Ніваў“, шукаючы ў іх сваёй злосці на Барскага, такой апублікаванай, бо ж такую ён мае на ўвазе. І знайшоў свой артыкул „Чаму так?“ у дваццаць шостай „Ніве“ за 1985 год. Пісаў я, чаму рэдакцыя змясціла яго артыкул, Барскага, а не змясціла мой. Я пісаў, ці Барскі павінен пісаць аб усім. Я меў на ўвазе тое, што напісаў ён пра беларускі фальклор дзесяць нумароў раней, у шаснаццатым. Я не паведамляў тады пра гэты нумар „Нівы“, думаючы, што яксьці не выпадае, бо ж нашу газету і за межамі Польшчы чытаюць...

Знаёмыя мне чытачы гаварылі, што Алесь Барскі павінен пра нешта важнейшае пісаць, замест глупствамі эмацыянавацца. А. Куптэль з Сопату, начытаўшыся майго таго артыкула,

(Працяг на стар. 8)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары Беласток. Вуліца Варшаўская. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 1)

„Беларуская песня 87“. Жанчыны наогул тут спяваюць самі. Аб Валянціне Дарашкевіч гавораць, што яна сама хораша спявае і мае арганізатарскія здольнасці, з ёю і выступае група жанчын. Праўда, гэта не тое, што калісьці, але ўсё ж песня не памерла, а зноў пашыраецца.

В. Дарашкевіч доўга была старшынёй гуртка вясковых гаспадынь. Цяпер яе падмяніла другая Валянціна — Ярмолік. У Меляшках, як і наогул усюды, гурток вясковых гаспадынь і гурток Беларускага таварыства — гэта адны і тыя ж самыя людзі. Значыць гэтакі гурток у Меляшках у апошні час вельмі актывізаваўся. А ўсё пачалося мінулай восенню з рамонту будынка святліцы. Бо „быў час, калі Меляшкі ездзілі, выступалі, але не мелі дзе ў сябе прыняць які-небудзь калектыў, а хочам мы, каб і да нас прыязджалі, хочам запрашаць“, — казалі яны.

Жанчыны з вясковага гуртка затупалі каля святліцы, заахвоцілі мужчын да працы. Ашалявалі будынак, унутры зрабілі „баазерыю“ (панелі), а ў адной унутранай сцяне прарэзалі сцэну. Мужчыны парабілі доўгія лаўкі, сталы ўзялі са школы, дзе ўжо яны сталі непатрэбнымі. Жанчыны пазавешвалі вокны старымі гардзінамі.

Ініцыятыве жанчын з дапамогай прыйшла салэцкая рада і солтыс Анатоль Чэмель, а таксама гміна ў Гарадку.

Некалькі год каля святліцы ляжала дрэва, з якога некалі збіраліся павялічваць будынак.

## МЕЛЯШКОЎСКІ КАРАВАЙ

Цяпер меляшкоўскія мужчыны, атрымаўшы дазвол начальніка гміны, завезлі і парэзалі бярвенне ды адрамантавалі будынак святліцы. Таксама мужчыны купілі сваім жанчынам у гурток пліту. Так што цяпер і зварыць і спячы можна. Толькі што тую пліту і начынне на 200 асоб гурток не мае дзе трымаць. Пліта стаіць у святліцы, а начынне — у шопцы. Прасілі жанчыны, каб далі ім будынак пасля школы, але там знаходзіцца нейкі склад. А вось палова дома, дзе жыла раней настаўніца, пустуе. Трэба каб і начальнік гміны і солтыс памаглі меляшкоўскім жанчынам і мужчынам загаспадараваць і тыя памяшканні, каб яны не нішчэлі, а служылі вёсцы.

„На Новы год „па старому“ стылю і на запусты зрабілі ў адноўленай святліцы баль. Задаволены былі і мужчыны, і ўжо нас больш пускаюць, як трэба куды ехаць“, — кажуць жанчыны.

Ніна Пятэльская, будучы ў Беластоку, зайшла ў рэдакцыю з просьбай: „Меляшкі хочуць зрабіць прадстаўленне. У нас 19 асоб у гуртку, 2 хлопцаў пачало прыходзіць, патрэбна нам п'еса“. Расказвала пра добры спявачы калектыў у Меляшках. Каб яшчэ паставіць п'есу, можна было б выступіць і паказацца з багатай праграмай. У Меляшках ёсць цяпер магчымасці і ўмовы для працы самадзейнікаў. І ёсць, галоўнае — ахвота, ёсць людзі, якія ўмеюць спяваць, і людзі, якія хочуць выступаць у п'есе. З такіх жаданняў можа вырасці зноў вялікі і прыгожы меляшкоўскі каравай, чаго ім ад шчырага сэрца жадаем. **(вв)**




Ніна Тамашук — бібліятэкар у Рыбалах, а цяпер яшчэ выконвае і абавязкі дырэктара Вясковага дома культуры, бо Лідзія Мартынюк у даўжэйшым водпуску, хоць яна і пастаянна ў курсе спраў рыбалаўскага ВДК.

На трэці дзень Вялікадня дзяўчаты наладзілі ў сваім ВДК сустрэчу ветэранаў апошняй вайны. Такіх усё менш сярод нас. З Рыбалаў на сустрэчу прыйшло 6 мужчын (некалькіх па хваробе не змаглі быць), якія былі на розных франтах. Некаторых з іх мабілізавалі ў Войска Польскае ў 1939 г., яны трапілі ў палон, уцяклі з яго, пайшлі ў Савецкую Армію. Іншыя ўступілі ў Савецкую Армію пасля вызвалення мясцовасцей, дзе яны працавалі на прымусовых работах.

Пяць з шасці рыбалаўскіх ветэранаў былі ў Савецкай Арміі. Цяпер, з баявымі медалямі на грудзях, прыйшлі на гэтую сустрэчу. Гэта: Аляксей Харытанюк, Іван Яканчук, Васіль Петручук, Ілья Нікалаюк, Уладзімір Гуралеўскі, Мікалай Максымюк.

Н. Тамашук павяла сустрэчу, як канцэрт пажаданняў: кароткая звестка пра лёс кожнага ветэрана і песня, яму прысвечаная. А спяваў гэтыя песні вядомы мужчынскі калектыў „Хлопцы-рыбалоўцы“.

Так прайшоў вельмі цікавы канцэрт ваенных песень. У выкананні рыбалаўскага калектыву пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага прагучэлі песні: „Гибель „Варяга“, „В путь-дорогу“, „Чорна хмара“, „Рэкруцкая“, „Как земля пригожа“, „На Кубани“.

На заканчэнне калектыў песню „День победы“ праспяваў свайму кіраўніку П. Нявінскаму, які таксама — ветэран Савецкай і Польскай армій.

Потым за супольным сталом усіх ветэранаў і харыстаў дзяўчаты частавалі чаем і святочным пірагом. Ну, і зноў былі, цяпер ужо супольныя, песні. І песні, пераважна рускія, громам раскатваліся далёка па вёсцы. Ветэраны памятаюць свае песні, а найбольш Мікалай Максымюк, які быў запявалам у батальёне.

Рыбалаўскі мужчынскі калектыў, як бадай ніхто больш, умее спяваць ваенныя рускія песні. Як мне казалі, ведаюць яны можа са сто такіх песень.

Сустрэча з ветэранамі была арганізавана ў Рыбалах з нагоды Месяца народнай памяці. І трэба сказаць: гэтая вартасная і дасканалая задума Н. Тамашук пакінула добрае ўражанне. А сама Ніна, звяртаючыся да сабраных, сказала: „Вы далі нам мір і таму, як падзяку за ясны дзень свабоды, мы арганізуем гэтую скромную нашу ўрачыстасць, і просім прыняць сардэчныя словы пажаданняў добрага здароўя“. **(вв)**

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# „Стольцы" і сталіцы

Са старонак летапісаў князь Гедымін явіцца нам не толькі мужным воінам, але і дбайным будаўніком і старанлівым гаспадаром, які не давяраўся занадта сваім падуладным. Часта завітваў ён неспадзявана ў якінебудзь рэгіён ці мясцовасць Вялікага княства Літоўскага і жыў там столькі, колькі спатрэбілася яму для асабістага ўладкавання важных спраў, ды падаваўся далей, дзе неабходнае было яго гаспадарскае вока. Значнейшыя мясціны, у якіх вялікі князь прабываў даўжэйшы час, набылі ў летапісах мілагучную назву — „столец".

І ў мінулым, і ў бягучым стагоддзях пішучыя пра Гедыміна даволі часта летапіснае слова „столец" успрыймалі ў значэнні сучаснага „сталіца". І атрымліваецца недарэчнасць, што Гедымін аж некалькі разоў пераносіў сталіцу свае дзяржавы з адной мясцовасці ў другую!

На шчасце вялікі князь не дапускаў такіх неразумных учынкаў. Па закладзенай Міндоўгам традыцыі, сталіцай Вялікага княства Літоўскага быў Наваградак. Таксама як ён карону, яго пануючыя наследнікі ў гэтым горадзе ўскладалі самі сабе на голаў славуты каўпак вялікіх князёў і такім чынам афіцыяльна аб'яўляліся гаспадарамі ўсяе дзяржавы. Каўпак вялікіх князёў — гэта своеасаблівы сімвал манаршай улады ў Вялікім княстве Літоўскім, ён сваім выглядам спалучаў баявы шышак беларускага рыцара і каралеўскай кароны. У Наваградку як сталіцы дзяржавы знаходзілася таксама рэзідэнцыя мітрапаліта — першасвяшчэнніка праваслаўных жыхароў Вялікага княства Літоўскага, якія былі яго асноўным насельніцтвам.

Але Гедымін не занядбоўваў і старажытнай крэпасці Керанава — радавога гнязда Рынгольдавічаў, з якіх ён выводзіў сваё паходжанне. Аднак трэба адразу заўважыць, што цікавілі яго там не столькі карэнні вялікакняжацкага радаслоўнага дрэва, колькі ўзвядзенне ўмацаванняў, якія ўзмацнялі б самы вузкі перашыек, які злучаў Жамойцію з Вялікім княствам, і не дазволілі б крыжацкаму ордэну аб'яднацца з яго лівонскімі (інфлянцкімі) „братамі". І ў выніку Гедымінавых намаганняў не толькі ў Кернаве, але па ўсёй паўночна-заходняй частцы дзяржавы, на якую перш за ўсё была нацэлена крыжацкая агрэсія, паўставала густая сетка ўмацаванняў. Яна выдатна дапамагла паўстрымаць варожы наступ. Пра гэтую настойлівую стваральную працу Гедыміна якраз і чытаем у адным з беларускіх летапісаў — „Хронікі Быхаўца": „І некаторага часу паехаў князь вялікі Гедымін са стольца свайго Кернава ў ловы за пяць міль, за раку Веллю, і найдзе гару ў пушчы красну, дубровамі і раўнінамі аблеглую, і спадабалася яму вельмі і ён там пасяліўся і залажыў горад і назваў імя яму Трокі... І з Кернава перанёс столец свой у Трокі". Праўда, шмат казачнага ў гэтай легендзе, як хаця б тая ж „гара красна", якую быццам бы ўпадабаў Гедымін і на якой заснаваў Трокі. Фактычна ж прасціраліся там тады ды захаваліся іх сляды і цяпер разлеглыя багны ды топелі і на іх то былі пабудаваны непрыступныя Трокі. Паўставалі яны на тэрыторыі, дзе жыло змешанае насельніцтва: крывічы, літоўцы, яцвягі, і будаваў Гедымін Трокі зусім не з прызначэннем на вялікакняжацкую сталіцу, але ўзводзіў іх як магутную крэпасць, якой заданнем было ахоўваць дзяржаву ад неўтаймаванага непрыяцеля — крыжакаў. Бо і хто ж будуе сталіцу на пагранічча са смяротным ворагам?

Такімі ж выключна абароннымі меркаваннямі кіраваўся Гедымін, будуючы крэпасць на левым беразе ракі Віллі насупраць горада Крывога — старажытнага горада крывічоў і сталіцы невялікага іхняга княства Крываградскага. У той жа „Хроніцы Быхаўца" гаворыцца, што „па малых часех паехаў пасля таго (гэта значыць: пасля заснавання Трокаў — М. Г.) князь вялікі Гедымін у ловы ад Трок чатыры мілі і найдзе гару красну над ракою Вільнею (левы прыток ракі Віллі — М. Г.), на якой натрапіў на звера вялікага тура і забіў яго на той гары, дзе цяпер завуць Тур'я гара. І вельмі было позна ў Трокі ехаць, і стаў ён на луцэ, на Швінтарозе, дзе першых князёў спальвалі (пасля іхняй смерці, вядома, па язычаскаму абраду пахавання — М. Г.) і заначаваў. І калі спаў, убачыў сон, што на гары, якую звалі Крывая, а цяпер Лысая, стаіць воўк жалезны, вялікі, а ў ім раве, быццам сто ваўкоў выла. Прачнуўшыся, паклікаў Ляэдзейку, якога калісьці знайшлі ў арліным гняздзе і быў ён у князя Гедыміна варажбітам і найвышэйшым паганскім святаром. Расказаў яму князь усё, што ў сне ўбачыў. І той Ляздзейка кажа гаспадару гэтак: „Княжа вялікі, воўк жалезны азначае: сталічны горад тут будзе. А што ў яго нутры раве — гэта слава яго будзе лунаць па ўсім свеце". І князь вялікі Гедымін назаўтра ж, не ад'язджаючы, паслаў па людзей і заснаваў горад адзін на Швінтарозе — Ніжні, а другі на Крывой гары, якую цяпер завуць Лысаю, і дасць тым гарадам імя — Вільня. І, збудаваўшы гарады, перанёс столец свой з Трокаў на Вільню".

Надзвычай маляўнічая легенда! Многія сталіцы могуць пазайздросціць Вільні такога красачнага радаводу. Выдатнымі майстрамі мастацкай выдумкі, вобраза і слова былі нашыя продкі, калі гэтае паданне і ў нашыя часы засталося жывым і дзейсным. Не так даўно, бо ў 1973 г., у старажытным цэнтры Вільнюса, ля падножжа Гедымінавай гары, быў пакладзены вялізны камень-валун з высечанай датай таго ж Гедымінавага прарочага сну: 1323 — год заснавання Вільнюса. Аднак жа легенда легендай, помнік помнікам, а гістарычная праўда — зусім іншая. Яна знаходзіцца якраз побач таго ж аграмаднага валуна, бо ў старажытнай Гедымінавай вежы. Там, на перадапошнім паверсе, наведвальнікі яе бачаць (мне пашчасціла тое ў 1985 г.) падрабязны макет засялення ў раннім сярэднявеччы наваколля вусця рэчкі Вільні ў раку Віллю. Макет падрыхтавалі найлепшыя знаўцы гісторыі гэтых зямель на аснове навейшых археалагічных адкрыццяў. На ім, як на далоні, відаць, што Крывы горад — гэта вялікае паселішча крывічоў з магутнымі абарончымі збудаваннямі. Яго пачаткі сягаюць VIII-IX стагоддзяў. Ён размешчаны на пра-



Вільнюс. Гедымінава вежа. 1985 г.

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 6)




верхняя частка, уключна з макаўкамі.

У мінулым годзе гміны выдалі гаспадарам крыху больш за 6 тысяч дазволаў на вырошчванне маку ў агародчыках. Пад макам апынулася 10,5 га поля. Апрача гэтага выяўлена больш за паўтары тысячы нерэгістраваных макавых палеткаў. Пасыпаліся штрафы і пакаранні.

А як у гэтым годзе? Справу разглядалі на сваіх сесіях мясцовыя рады нарадовыя. За забаронай вырошчвання маку прагаласавалі 20 мясцовых радаў. Між іншым, ва ўсіх гарадах, а таксама ў гмінах: Белавежа, Бельск, Боцькі Чыжы, Ясяноўка, Ясвілы, Кляшчэлі, Карыцін, Кузніца, Міхалова, Мельнік, Нараў, Нараўка і Пасвентнае. 25 іншых мясцовых органаў народнай улады галасавалі за дазвол на вырошчванне маку пад дзяржаўным кантролем. Іх меркаванне выказаў радны з Боцькаў, Павел Зелянеўскі, выступаючы на сесіі ВРН. „Наркаманія, — гаварыў ён, — гэта выдумка людзей багатых, і забарона вырошчвання маку ў ніякім выпадку не давядзе да яе ліквідацыі. Хто так думае, хай найперш забароніць вырошчваць бульбу і буракі, бо яны даюць сыравіну для прадукцыі гарэлкі, хай не дазволіць сеяць ячмень, бо з яго — піва..."

Бурлівыя спрэчкі працягваліся і ў час гэтага другога пасяджэння 18-ай сесіі ВРН. Прэзідыум рады выступіў з кампраміснай прапановай, каб забарона вырошчвання маку абавязвала толькі некаторыя прыбеластоцкія гміны і каб дзейснай была яна да 31 снежня 1988 года. Урэшце рэшт дайшло да галасавання: 65 радных прагаласавала за, 28 — супраць і 5 — устрымалася. Такога разнагалосся ў галасаванні ніколі не здаралася ў гісторыі беластоцкай ВРН.

Значыць, мак яшчэ зацвіце на сялянскіх загончыках, праўда, не ўсюды, але цалкам яго не звялі. Затое ўсюды абавязвае папярэдняя пастанова, што мак можна вырошчваць толькі на палетках велічынёю не болей 20 квадратных метраў у гаспадарцы аднаго гаспадара, а макавую салому абавязкова трэба або спаліць, або прадаць мясцоваму ГСу, калі ён займаецца яе скупкай. А калі *„пасеяла баба мак, ды не ведала як"*, тады можна спадзявацца вельмі ж прыкрай неспадзяванкі. Так яно цяпер з прыгожым, карысным ды смачным макам.

**Віктар Рудчык**

# Зорка

## Старонка для дзяцей

## „Ганулькі" і Ласінка

Школа ў Ласінцы даўно славіцца сваімі спевакамі. Дзеці тут умеюць і любяць спяваць. Вось на здымку бачым дзявочы квартэт. Мы назвалі яго „Ганулькі", бо першай песняй, якую яны развучвалі і спявалі была „Ганулька" з рэпертуару Данчыка.

Дзяўчаткі пачалі разам спяваць і выступаць ужо ад першага класа. Цяпер вучацца ў чацвертым класе. З песняй не расстаюцца. Гэта дружны калектыў, якому жадаем прайсці разам да канца школы.

Цяпер „Ганулькаў" вучыць спяваць і рыхтуе да конкурсаў беларускай песні для школьнікаў настаўнік музыкі і спеву ў школе ў Ласінцы Яўген Дудзіч. Ён таксама сарганізаваў у школе хор. Харысты — вучаніцы V, VI, VII і VIII класаў. Хор рыхтуе першую праграму на ўрачыстасць заканчэння школьнага года, у якой і беларускія песні.

(вв)

Фота Я. Чэрнякевіч



Школьны квартэт з Ласінкі „Ганулькі": Крыся Плева, Ася Астапчук, Ася Кандрацюк, Ася Філіповіч.



У этнаграфічным куточку беларускага класа ў Ласінцы. Дзяўчаткі і хлопцы знайшлі найстарэйшыя і найцікавейшыя рэчы ў куфэрках сваіх бабуляў і дзядуляў.

Фота Я. Чэрнякевіч.

## Беларускія птушкі

Аняр'ян Дзержынскі

### ПЕРАПЁЛКА

Вецер
Жыта ў полі гушкаў —
Абудзіў у жыце
Птушку,
Абудзіў на золку
Птушку-перапёлку.
Перапёлка ўстала рана,
Па траве пайшла расянай,
Пакупалася
У расе,
Пасушылася
У аўсе.
Паглядзела —
Спелы колас,
Загукала
На ўвесь голас:
— Уставайце
Усе, хто спіць,
Жаць-касіць,
Жаць-касіць!



## ЗАГАДКІ

Лясной сцяжынкай,
Дзе густыя шаты,
Працаўнічок
Спяшаецца дахаты,
Яго амаль і не відаць,
Малога,
А цягне — болей
За сябе самога.

Ніл Гілевіч

Адказ у наступным нумары

Адам Русак

## ВЯСНОЙ

У птушыным зводным хоры —
Пераліўы,
Пераборы!
ДО — адна з тых першых нот,
Што выводзіць сам удод.
Ноту РЭ — снягір бярэ.
Ноту МІ — бярэ чыранка.
Ноту ФА — бярэ аўсянка.
Ноту СОЛЬ — бярэ шчыгол.
Нота ЛЯ — у салаўя.
Нота СІ — у жаўрука,
Самародка-спевака.

Так пяе птушыны хор,
Аж звініць зарэчны бор!

## УВАГА, ВЫВУЧАЕМ ГІСТОРЫЮ

Уважліва разгледзьце гэтую цікавую карту сярэдневяковых (XIV-XVI стагоддзяў) беларускіх гарадоў і рэк. Звярніце ўвагу на старыя назвы.

Выпішыце асобна гарады, асобна рэкі. Напішыце сучасныя іх назвы. Якія яшчэ старажытныя беларускія гарады і рэкі вы знаеце?



З суседскага агародчыка

### ЯК ЗРАБІЦЬ СУСЕДЗЯЎ СВАІМІ ВОРАГАМІ

Аснову для канфлікту з суседзямі вы павінны закласці адразу ж, калі перасеціце на новую кватэру. Для гэтага бярыце вядро, поўнае смецця або будаўнічага друзу, і высыпайце ўсё гэта каля дзвярэй суседкі. Пачуўшы праз некаторы час у калідоры крыкі і лямант, пачынайце істэрычна смяяцца, спявайце, брынькайце на піяніна, а то на ўсю моц уключыце радыёлу, тэлевізар і магнітафон.

У суседкі лопне цярпенне, і яна пачне з вамі скандаліць. Да яе далучацца іншыя. Калі ж хто-небудзь з суседак не ўключыцца ў скандал, набіце яе дзіця, узвядзіце паклёп на яе мужа, даймайце яе праз тэлефон, абліце чарнілам вывешаную для сушкі бялізну, сарвіце яе паштовую скрынку, сцягніце або парвіце яе часопісы і газеты, напішыце ёй ананімнае абразлівае пісьмо, паскардзіцеся на яе ў домакіраўніцтве, на яе адрас фальшыва выклічце пажарную каманду або машыну „хуткай дапамогі", міліцыю і да т.п. Калі вы жывяце ў вёсцы, неўпрыкметку ўпусціце ў кукурузнае поле, сад або агарод суседкі вашу карову, цяля, свінню, барана. І калі на самай справе ў суседкі няма жалезных нерваў, яна абавязкова пачне з вамі сварыцца!

### НЯСУН

Ішлі сяброўкі ранкам на работу.
Пагаварылі аб надвор'і, потым
Пытае раптам Ліда Нату:
— Твой муж прыносіць добрую
зарплату?
— Цікавіць, колькі Стась мой зарабляе?
І больш, і менш — па-рознаму бывае.
Адкрыю я сакрэт табе'аднэй:
Усё залежыць — хто на прахадной.

**Уладзімір Мацвеенка**



# НІЎКА



— Я ж прасіў не прымушаць звяроў прыбіраць смецце!..

### НЕКАЛІ

— Прысядзь, Іван, ды перакурым, — кажа вахцёр на прахадной свайму суседу-токару.

— Ды вы што, дзядзька! У нас перакуры толькі ў рабочы час. А ўжо змена скончылася... Мне некалі.

### ЖАРТАЎНІЦА

У перапоўненым аўтобусе жанчына, якая прастаяла ў цеснаце ўжо добрых паўгадзіны, звяртаецца да сідзячага задрыпанца:

— Калі ласка, устаньце!

— Ну ўжо не! Ведаю я гэтыя жарты: толькі ўстану, як вы тут жа сядзеце на маё месца!

### ЧАМУ КАСЦЮМ МОКРЫ

— Маня, — спрасонку пытае муж у жонкі, — чаму гэта мой святочны касцюм брудны ды мокры?

— Ды гэта ж ты ўвечары, як мы з вяселля вярталіся, для мяне зоркі збіраў.

— А хіба ўвечары быў дождж?

— Ды ты ж зоркі па калюжынах збіраў...



**Ён дарыў сэрца кожнай дзяўчыне. Скончылася тым, што стаў бессардэчным.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пасылае брыгадзір дзеда.
— Пайдзі, паварушы пшаніцу на таку!
— Дык у мяне ж воз няспраўны, — адказаў дзед.

*

Спацелы пісьманосец, налягаючы на вёслы, падплывае да маяка і са злоснай мінай уручае наглядчыку пісьмо.

— Калі ты і другім разам прыплывеш сюды такі злосны — я падпішуся на якую-небудзь газету.

*

— Я збіраюся на сустрэчу з адной маладой асобай, — звяртаецца пажылы пан да прадаўшчыцы ў парфумным магазіне. — Ці няма ў вас чаго-небудзь з пахам, які гаворыць аб каханні, чаго-небудзь такога, каб у дзяўчыны закружылася галава?

— Спецыяльна для вас, — адказвае прадаўшчыца, працягваючы невялікі флакончык. — Гэта духі, якія імітуюць пах кашалька.

### БАЦЬКАВА РАДАСЦЬ

— Калі твой бацька пабачыць, што ты напісаў у сшытку, то ў яго валасы ўстануць дыбам, — кажа настаўнік вучню.
— Гэта б яму прынесла вялікую радасць, — ускліквае са смехам вучань.
— А чаму ж яму радавацца?! — здзіўляецца настаўнік.
— Ён жа зусім лысы!

З „Весніка Задрыпоніі"

### ВАЖКІ ЎКЛАД

Актыўна ўключылася ў барацьбу з ананімшчыкамі прамысловасць, якая выпускае канцылярскія тавары. У выніку стрыжні для аўтаручак не пішуць, алоўкі ў адзін момант ломяцца, а друкарскіх стужкаў да машынак, капіравальнай паперы і па блату не знойдзеш.

### РАЗВАЖАННІ

Ці варта станавіцца лідэрам, калі яго ўсе праследуюць?







# Курёзы

### КАНТРАБАНДНАЯ ПРЫНАДА

Ці чулі вы калі-небудзь аб кантрабандзе дажджавых чарвякоў? Каму могуць яны так спатрэбіцца, каб з рызыкай перапраўляць іх праз граніцу? Як высветлілася, іспанскім рыбаловам. А дапамагаюць ім партугальскія кантрабандысты, што забяспечваюць іх прынадай, якой вельмі шмат паблізу вусця ракі Саду на поўдзень ад Лісабона. Кантрабандны гандаль паміж Іспаніяй і Партугаліяй не абмяжоўваецца гэтым таварам. Праз граніцу ўпотай пераганяюць жывёлу, перапраўляюць каву, тытунь, мыла і нават так званы „Сакавем скоч" — самагоннае зелле партугальскага прыгатавання з нейкай „Шатландскае віскі". Аднаго вядомага кантрабандыста кавай з партугальскай правінцыі Алентэжу вызвалілі з-пад арышту пакольні... ад яго дзейнасці залежыць дабрабыт 900 чалавек.

### РЭКЛАМА

„Патрэбны сумленны чалавек, здольны на ўсё!"

Газета „Джэксанвіл пэйпэр"



**Чым часцей вы ўсміхаецеся, тым больш зморшчак з'яўляецца на твары ворага.**